

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№8 (244) ТРАВЕНЬ 2018 ГОД

КОШТЫ РЫНКА

## ГАНДАЛЬ НА ШУМІЛІНСКІМ РЫНКУ

**Напрыканцы месяца выхадныя дні выдаліся на дзіва сонечныя і цеплыя – да + 24, дарэчы, як і ўвесь травень. Ажывіўся і гарадскі рынак, тым болей, што сёння – 27 траўня праваслаўныя і каталікі адзначаюць Дзень Святой Тройцы.**

Канешне, вясновы рынак не такі багаты, як восеньскі, аднак і цяпер людзі спяшаліся набыць паўсядзённыя тавары, але безумоўна ў гандлёвых радах пераважалі кветкі, як штучныя, так і жывыя, а таксама рассада.

Дарэчы, цэны на пластыку і ў гэтым годзе трымаюцца няслабыя. Самы сціплы букецік з двух-трох штучных кветак каштаваў па 2-3 рублі, больш шыкоўны – да 10-15 руб.

Жывыя кветкі былі выстаўлены ў гаршчэчках, пластыкавых і картонных скрынках.

Найбольш хадавыя: пятунння – 1,5 руб. , гваздзікі – 3 руб., бягонія ад 1,5 да 4 руб., вербека – 4 руб., цынія – 2 руб. (10 шт.), астра – 2 руб., (10 шт.), хоста – 2 руб за адну расліну.

З рассады народніны засталіся толькі памідоры па 50 капеек за адну расліну, якіх было шмат.

Машына з "Унітарнага прадпрыемства" Полацкага рынку г. Віцебска прапаноўвала шумілінцам на рынку мяса, рыбу, паўфабрыкаты, яйкі, гароднiну, крупы, локшыну, хлебабулачныя вырабы, цукар. Мяса свініны каштавала 5 рублёў 62 капейкі за 1 кг, а свіная рулька – 3 руб. 5 кап. Кіло сала салёнага прадавалі па 9 руб., 21 кап., галубцы з мясам і рысам – 1 кг - 4,96, яйкі курыныя ад 1,45 руб. да 1,60 за 10 шт. Агуркі свежыя па 1,65 за кг, памідоры (Рудакова) 3,19 руб.

Найбольш бойкая чарга выстраілася каля машыны-аўталаўкі з гароднінай і садавінай. Кошты на імпартную садавіну пакуль што "кусаюцца":

чарэшня – 7,3 руб. за 1 кг., вінаград –6,5 руб., персікі – па 5 руб., клубніцы – 5 руб.

Праўда, гародніна ў гэты дзень каштавала намнога танней: памідоры – 3,2-3,4 руб., капуста –1,3 руб., радыска2 руб., агуркі свежыя 1,3 руб. У прыватнікаў можна было купіць старую бульбу: за 5-ці літровае вядро прапаноўвалі 2,5 руб.

З прамысловых тавараў прадаваліся адзенне і абутак. У сярэднім цэны на хадавыя красоўкі былі па 25 руб., сланцы – 15 руб., кеды – 10 руб.

А вось маладой ранняй бульбы на рынку яшчэ не было відаць. Праўда, яе можна была заўважыць у шумілінскіх крамах: "Супермаркет" ( па вул. 70 год БССР, у раёне райбальніцы) і у магазіне сеткі Еўраопт ( па вуліцы Дубасарскага, 7). Бульба імпартная – ранная, Егіпет, цана ад 99 капеек да 1,10 руб. за 1 кг.

**Алесь Шумскі**

БУДАЎНІЦТВА

## ЦЯЖКАСЦІ БУДАЎНІЦТВА ХРАМА Ў ШУМІЛІНЕ

**Актуальнае пытанне: будаўніцтва ў райцэнтры праваслаўнага храма Святціцеля Мікалая Цудатворцы было ўзнята жыхарамі гарпасёлка Шуміліна падчас "прамой лініі" старшыні Шумілінскага райвыканкама.**

І сапраўды, як тут не хвалявацца, калі усёй талакой здолелі ўзвесці такі немалы будынак, а вось завяршыць яго будаўніцтва дагэтуль ніяк не ўдаецца. У сваю чаргу кіраўнік раёна Аляксандр Снараў таксама адзначыў, што яго таксама хвалюе гэты доўгабуд ў цэнтры пасёлка.

Мясцовыя ўлады па меры магчымасцяў падтрымлівалі будаўніцтва. На праваслаўны храм грошы выдзяляліся ў мінулыя гады са сродкаў, заробленых на гэтак званых суботніках. Паводле іх меркаванняў, тут не заўважана актыўнай пазіцыі ў гэтым пытанні з боку царкоўных уладаў. Прынамсі, кіраўнік раёна паабяцаў, што райвыканкам у чарговы раз звернецца да кіраўніцтва Віцебскай епархіі і Шумілінскага благачыння, каб паскорыць будоўлю храма.

У сувязі з гэтым наш карэспандэнт вырашыў на ўласныя вочы пабачыць, як ідуць работы звонку і ўнутры будынка праваслаўнай царквы.

Не трэба думаць, аднак, што царкоўныя дзеячы, у тым ліку і протаіерэй Фёдар Пучынскі, благачынны цэркваў Шумілінскай акругі сядзяць, склаўшы рукі.

На будаўніцтве храма занята 8 чалавек, і работы працягваюцца па меры паступлення фінансаў і матэрыялаў. У храме на сценах, вежах і купалах ужо ўстаўлены ўсе пластыкавыя вокны. Абшыўка будынка і замацаване навесаў з дэкаратыўнымі панэлямі завершаны. Пракладзены ўсе інжынерныя сеткі ( вадаправод і каналізацыя).

На днях была заліта бетонам пляцоўка пад алтар. Зараз вядуцца работы па сістэме ацяплення, праведзены неабходныя камунікацыі, зроблены ўцяплёныя палы. На першым паверсе поўнасцю затынкавалі і выкрасілі сцены ў белы колер. Адначасова ідзе праца па ўсталяванні вентыляцыі, электра- і слабаточных сетак, сістэмы кандыцыянавання і сувязі. Поўным ходам ідзе падрыхтоўка да асфальтавання пляцовак вакол будынка. У планах на бліжэйшы тыдзень пралажыць увесь асфальт на тратуарах, правесці азеляненне газоннай травой.

На першым паверсе ўжо амаль падрыхтаваны пакоі для нядзельнай школкі, трапезная, хрысцільная, пасцінная і іншыя царкоўныя кабінеты. Каля храма працуе лаўка, куды можна звярнуцца па любым царкоўным пытанням. З усяго відаць, што будаўнікі ўжо стварылі неабходныя ўмовы для правядзення часовых багаслужэнняў. Дарэчы, у храме на першым паверсе ўжо праходзіць акафіст Святціцелю Мікалаю.

**У. Амбросаў**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

ГРАМАДСТВА І ЗАКОН

## ЗАРПЛАТА ЛЮБОЙ ЦАНОЙ

**Гісторыя бухгалтараў з Мішневіч і "Райаграсервіса", якіх прымусілі падрабіць даведкі, каб выдаць людзям зарплаты.**

Васіль Найдзёнак пасля каледжа трапіў па размеркаванні на сельгаспрадпрыемства «Мішневічы» у Шумілінскім раёне. Тут яго, тэхніка-праграміста па адукацыі, узялі на пасаду галоўнага бухгалтара – і вельмі хутка малады спецыяліст трапіў пад суд. Яго нявеста Наста сцвярджае, што яны з Васілём – не адны такія бухгалтары ў Шумілінскім раёне, на якіх ціснулі зверху.

«Мяне вымусілі падрабіць дзве даведкі для банка, каб выплаціць працаўнікам зарплату», – сцвярджае Найдзёнак. За службовую падробку яго аштрафавалі на 7350 рублёў.

Сапраўды ў такой жа сітуацыі апынулася і Анастасія, нявеста Васіля. Дзяўчына таксама працавала бухгалтарам у Шуміліне, была вымушаная падрабіць адну даведку і паплацілася штрафам. Праўда, у 10 разоў меншым, чым у Васіля, – 735 рублёў.

Васіль і Анастасія распавялі, чаму яны пайшлі на падлог дакументаў і з якімі цяжкасцямі наогул сутыкаюцца на сяле маладыя спецыялісты.

**«Адправіў у банк дзве ліпавыя даведкі»**

Васілю Найдзенку – 22 гады, ён родам з Міёрскага раёна. У 2015 годзе скончыў Полацкі аграрна-эканамічны каледж, атрымаў спецыяльнасць тэхніка-праграміста. У жніўні па размеркаванні трапіў на працу галоўным бухгалтарам у КУСП «Мішневічы» Шумілінскага раёна.

– Прыйшлося з нуля асвойваць новыя для сябе веды. Спачатку дапамагалі вопытныя бухгалтары, але ў асноўным ўнікаў ва ўсё сам. Потым навучыўся, прывык, і працаваць стала лягчэй. Але ў гаспадарцы былі арыштаваныя ўсе рахункі, на якія павінны былі прыходзіць грошы, бо існавала вялікая запазычанасць па плацяжах у ФСАН, у ІМПЗ, «Белдзяржстрах». Начальства ціснула: каб выплаціць заробак працаўнікам, трэба рабіць для банка даведкі са звесткамі аб выкананні абавязацельстваў з падробленай электронна-лічбавым подпісам. Гэта значыць, у іх паказвалася, што «ФСАН выкананы», «пенсійны фонд выкананы», «страхавыя ўнёскі ў" Белдзяржстрах "выкананы". Банк бачыў, што запазычанасцяў няма, і пералічваў прадпрыемству грошы, якія ішлі на зарплату.

Васіль падпісаў дзве такія ліпавыя даведкі. Адну – у студзеня 2017-га, другую – у траўні таго ж года. Так ён трапіў пад крымінальную справу. Маладога спецыяліста абвінавацілі ў службовым падлогу – унясенні службовай асобай заведама ілжывых звестак і запісаў у афіцыйныя дакументы, учыненым з карыслівай ці іншай асабістай зацікаўленасці.

15 сакавіка гэтага года суд Шумілінскага раёна аштрафаваў Найдзёнка на 300 базавых велічынь (7350 рублёў).

Васіль абскардзіў гэтае рашэнне ў абласным судзе. У сваёй апеляцыі паказаў, што не зможа аплаціць такі штраф з-за цяжкага матэрыяльнага становішча, і папрасіў прызначыць яму пакаранне ў выглядзе папраўчых работ. Адвакат прасіў паменшыць памер штрафу падабароннаму да 50 базавых велічынь.

Аднак 15 мая калегія абласнога суда пакінула прысуд раённага суда без змянення.

– Я не згодны з гэтым рашэннем. З майго заробку ў 300 рублёў я магу

*(працяг на стр. 2)*

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## ЧАКАНЫ РАМОНТ ДАРОГІ

**Прыемнай навіной як для для жыхароў гэтай вуліцы, такі ўсіх шумілінцаў і гасцей гарадскога пасёлка стаў рамонт дарогі, які доўжыўся тры дні і быў учора завершаны.**

Праўда, новы асфальт быў пракладзены ад павароту з вуліцы 40 год Кастрычніка і да будынка дзіцячага садка. І яшчэ не ўсюды зроблены тратуары, пешаходы выходзяць на праезжую частку.

Каля новага магазіна гандлёвай сеткі «Еўраопт» ( Дубасарскага 7 ) пакуль што асфальтавае пакрыцце дарогі і пляцоўка для паркоўкі атамабіляў канчаткова не даведена да ладу.

Аднак і гэта усцешвае, бо капіт рамонт тут не рабіўся некалькі гадоў, і аўтатранспарт пераадольваў ямкі і калдобіны, залітыя вадой.

Увогуле, зараз дарога выглядае бадай што лепей, чым па вуліцы Ленінскай у цэнтры Шуміліна.

**Ян Вайтовіч**

ГРАМАДСТВА І ЗАКОН

*(пачатак на стр. 1)*
вылучаць на выплату штрафу па 30 рублёў у месяц. І яго пагашэнне расцягнецца на гады. Сваякі мне дапамагчы не могуць: бацька - інвалід, мама працуе на пошце і атрымлівае 150 рублёў. Удваіх яны жывуць на 350 рублёў. Адна малодшая сястра яшчэ вучыцца, другая працуе ў калгасе. Дзе ўзяць грошы на выплату такога вялізнага штрафу – я не ведаю. Таму мы з адвакатам маюць намер звяртацца ў Вярхоўны суд.

**«Нам казалі: «Любой цаной закрываем зарплату!»**

Практычна такая ж сітуацыя і ў нявесты Васіля – Анастасіі Маісеенка. Яна таксама працавала бухгалтарам у Шумілінскім раёне – у мясцовым райаграсэрвісе, які, дарэчы, стаў банкрутам. Гісторыя з падробленай даведкай у яе адбылася ў снежні 2016-га:

– Па просьбе кіраўніцтва падрабіла адну даведку для банка. Мне далі за гэта штраф у 30 базавых велічыняў (735 рублёў). Я пісала хадайніцтва на імя пракурора, што не прынесла вялікай шкоды, выплаціла штраф – і справу з крымінальнай перакваліфікавалі ў адміністрацыйную.

Васіль і Анастасія публічна не называюць прозвішчаў людзей, якія распараджаліся рабіць падробленыя даведкі. У суд першай інстанцыі выклікалі кіраўніка гаспадаркі, дзе працаваў Васіль: ён адмаўляў тое, што галоўбуху хтосьці загадваў рабіць ліпавыя дакументы. І суд фактаў «ціску» не ўсталяваў. Адзінае, што могуць сказаць: загады спускаліся не на ўзроўні гаспадаркі – вышэй.

– І мяне, і Васіля, груба кажучы, прымушалі гэта рабіць, – тлумачыць Анастасія. – Грошайна выплаты заробку супрацоўнікам бракавала. Але ёсць даручэнне дзяржаўных органаў, што ўсім работнікам неабходна забяспечыць своечасовую выплату зарплаты. І кіраўніцтва ўвесь час казала: «Любы цаной закрываем зарплату!». Нас прасілі рабіць даведкі аб выкананні абавязацельстваў перад ФСАН і г.д. І супакойвалі, што нічога страшнага за гэта не будзе – максімум штраф у дзве базавыя, і тыя – на гаспадарку, а не асабіста на бухгалтара. Але ў выніку ФСАН падаў скаргу ў АБЭЗ, і ўсё адкрылася.

Дзяўчына сцвярджае, што яны з Васілём – не адны такія бухгалтары ў Шумілінскім раёне, на якіх ціснулі зверху:

– Такія выпадкі з падробленымі даведкамі для банкаў у раёне яшчэ былі. Ад следчага, які вёў маю справу, ведаю, што яшчэ ў адной гаспадарцы бухгалтар падрабіла электронныя подпісы ў 13 даведках, на яе завялі дзве крымінальныя справы, і па рашэнні суда яна павінна выплаціць 300 базавых велічыняў. То бок, у яе за 13 даведак такі ж штраф, колькі ў Васіля за дзве!

У Шумілінскім раёне за паўтара года распачата 10 крымінальных справаў у дачыненні да бухгалтараў сельгаспрадпрыемстваў. Усё па адным артыкуле – за службовы падлог. У пракуратуры вобласці патлумачылі, што гэты раён – адзін з самых праблемных па выплаце зарплаты. Па дадзеных на 11 траўня, больш за палову сельгасарганізацый у гэтым рэгіёне не змаглі пагасіць даўгі перад людзьмі. У цэлым па вобласці на сярэдзіну траўня не змаглі своечасова выплаціць заробак 62 арганізацыі, з іх – 58 прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу. Яны павінны работнікам больш за 2 млн рублёў. 24 мая Аляксандр Лукашэнка аб'явіў заўвагу за незабеспячэнне выканання свайго даручэння аб своечасовай выплаце заработнай платы старшыням Віцебскага аблвыканкама Мікалаю Шарстнёву і Магілёўскага аблвыканкама Уладзіміру Даманеўскаму.

**«Да выбараў людзям аддалі заробак, але потым сядзелі без грошай паўгады»**

Маладыя людзі ўспамінаюць, што ў гаспадарках, дзе яны адпрацавалі па 2 гады, праблемы з выплатай зарплаты былі хранічнымі.

– У «Мішневічах" запазычанасць па зарплаце заўсёды была за 2-3 месяцы. А спачатку, калі я толькі прыйшоў працаваць, там наогул была запазычанасць за 4 месяцы. Але ў кастрычніку 2015 году былі прэзідэнцкія выбары, і людзям пашанцавала: зачынілі доўг па заробку за цэлых два месяцы з чатырох, – кажа Васіль. – У мяне ў самога не было зарплаты па некалькі месяцаў. Жыў на адной бульбе. Да таго ж за 2 гады з асабістай кішэні я заплаціў прыкладна 1000 рублёў на штрафы за тое, што ў гаспадарцы своечасова не выплачвалі зарплату.

– І ў нас у райаграсэрвісе таксама так было – да выбараў людзям аддалі ўсё. Але набралі даўгоў, і потым 6 месяцаў сядзелі без зарплаты наогул, – дапаўняе жаніха Анастасія. – Я магла, напрыклад, атрымаць у снежні зарплату за жнівень. І тое не ўсю, а няшчасных 50 рублёў. Мне дапамагалі жыць бацькі. Мама яшчэ гаварыла: «Думала, ты пойдзеш працаваць, і лягчэй будзе, але не атрымліваецца ...».

– Я ведаю, што многія спытаюць, дзе былі мае мазгі, калі я гэта рабіў: ішоў на падставе ў кіраўніцтва і падрабляў даведкі. Адкажу так: няхай гэтыя крытыкі стануць на маё месца і папрацуюць 2 гады там, дзе адпрацаваў я. Я б паглядзеў з боку, што б яны зрабілі ў маёй сітуацыі.

Анастасія Маісеенка кажа, што на падробку дакументаў яе вымусіла пайсці спачуванне работнікам, якія месяцамі сядзяць без грошай:

– Я думала толькі пра тое, каб людзям, якія не атрымліваюць зарплату па 2-3 месяцы, выплаціць хоць нейкую частку грошай. Даяркам і пастухам нічога ж не патлумачыш. У іх жа меркаванне: калі ты працуеш у бухгалтэрыі, то ў цябе поўныя кішэні грошай і ты сам своечасова атрымліваеш заробак. Васю нават як-то раз пастухі пагражалі. Прыйшлі і сказалі: "Давай зарплату, інакш мы ведаем, дзе ты жывеш".

**"Урок просты: не слухаць тое, што гавораць па тэлеку"**

Пасля адпрацоўкі па размеркаванні маладыя людзі з'ехалі з гаспадарак, дзе працавалі. Цяпер яны жывуць у Віцебскім раёне. Анастасія пакуль не працуе, а Васіль уладкаваўся рознарабочым ў філіял «Лучоса» ААТ «Віцебскі камбінат хлебапрадуктаў».

– Мне прапаноўвалі стаць бухгалтарам, – кажа Васіль. – Я адразу: «Не!». Ніколі ў жыцці больш не пайду працаваць на матэрыяльна адказную пасаду. У сярэднім мая зарплата цяпер складае 300 рублёў – столькі ж, як і тады, калі працаваў галоўбухам. Я зараз рознарабочым: кашу траву, цкаваньне зерне, забіваю цвікі ... Але заробак у гэтай гаспадарцы, дзякуй богу, плацяць своечасова. З усяго, што са мной адбылося, вынес урок. Урок гэты просты: не слухаць тое, што гавораць па тэліку пра нашу сельскую гаспадарку. Паверце, малюнак па тэлевізары і тое, што адбываецца ў гаспадарках ў рэальнасці, – гэта жыццё з двух розных планет.

**TUT.BY**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

СПОРТ

# АСІЛКІ З ШУМІЛІНА ЎЗЯЛІ ЗОЛАТА

**У горадзе Лунінец адбыўся чэмпіянат Рэспублікі Беларусь па паўэрліфтынгу ў жыме штангі, на якім шумілінскія спартсмены занялі прызавыя месцы.**

Гэта былі спаборніцтвы на мяжы чалавечых магчымасцяў. Бадай шо, кожны з удзельнікаў тут максімальна накіраваны на асабістыя рэкорды. Тым болей, што трапіць на яэмпіянат краіны па жыме штангі лежачы - гэта ўжо перамога.

Бо нашым шумілінскім асілкам загартоўваць моцную волю і характар даводзілася не адзін год. Як напрыклад, ветэрану ў катэгорыы 40-50 год – дырэктару ПМК-70 Аляксею Крыўко, які выйграў залаты медаль.

Усяго па выніках спаборніцтваў Шумілінскі раён пабагацеў аж на трох чэмпіёнаў Беларусі. Таксама залатыя медалі дасталіся юнакам да 18 год – вучаню 11 класа Шумілінскай СШ №1 Уладзіславу Догелю, сярод юніёраў да 23 год – майстару ПМК-70 Арцёму Рысаўцаву, Трэніруе чэмпіёнаў Юрый Абраменка.

Віншуем з перамогай шумілінскіх асілкаў Уладзіслава Догеля, Арцёма Рысаўцава, Аляксея Крыўко з бліскучай перамогай і жадаем новых дасягненняў!

**Алесь Прыбярэжны**

ЗДАРЭННІ

# НЕБЯСПЕЧНАЯ ЗНАХОДКА

**Каля 300 мінамётных мін выяўлена на полі каля вёскі Прыазёрная**

4 траўня раніцай пры ўзворванні на полі каля вёскі Прыазёрная механізатар убачыў тры падазроных прадмета. Усяго выкліканыя на месца здарэння сапёры знайшлі каля 300 мінамётных мін калібрам 81 мм часоў вайны.

Снарады знаходзіліся на двух побач размешчаных участках памерам 2-3 м. Боепрыпасы вывезены ў бяспечнае месца і знішчаны.

Марыя Вараб'ёва, начальнік службы інфармацыйна-прапагандысцкай работы, звярнула ўвагу ўсіх работнікаў аграпрамысловага комп-лексу на неабходнасць праяўляць павышаную асцярожнасць пры выяўленні падазроных прадметаў у ходзе палявых работ.

**Сяржук Крупскі**

# УДАРЫЛА НАЖОМ

**У Мішкавічах нецвярозая жанчына ўдарыла нажом мужа.**

У Шумілінскі райаддзел міліцыі з прыёмнага пакоя раённай бальніцы паведамілі пра тое, што «хуткая дапамога» прывезла з Мішкавіч мужчыну з колатай ранай.

Яквысветлілася, напярэдадні мужчына пасварыўся са сваёй жонкай. Жанчына, якая знаходзілася ў стане алкагольнага ап'янення, схапіла ў рукі нож і пырнула ім мужа.

Па частцы 1 артыкула 147 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь узбуджана крымінальная справа. Цяпер жанчыне пагражае абмежаванне волі ад 3 да 5 гадоў або пазбаўленне волі ад 4 да 8 гадоў.

**Сяржук Крупскі**
**па матэрыялах uvd.vitebsk.gov.by**

АПЫТАННЕ

# "ТАКІ ХАКЕЙ НАМ НЕ ПАТРЭБНЫ!"

**У нашых супольнасцях, у прыватнасці ў сетках Укантакце праводзілася ананімнае апытанне: "Ці варта далей рабіць стаўку на развіццё хакея ў якасці нацыянальнага каманднага спорту?"**

У ананімным апытанні прынялі ўдзел 35 чалавек. Меркаванні раздзяліліся, аднак характэрна тое, што болей за ўсіх - а гэта 31 рэспандэнт выказалі сумнеў наконт таго, што ў Беларусі хакей будзе мець перспектывы развіцця ў нацыянальным маштабе.

У выніку наведвальнікі прагаласавалі ў варыянтах з прапанаваных адказаў:

1. так, трэба далей, мацней развіваць хакейм – 11.4%
2. трэба рабіць нацыянальным спортам футбол – 5.7%
3. наш спорт – гандбол – 5.7%
4. усе віды спорту трэба падтрымліваць пароўну – 31.4%
5. нам трэба старацца стаць краінай навукі і культуры, а не спорту – 45.7%

Прагаласавала ўсяго 35 чалавек. Такім чынам, за развіццё хакея ў краіне выказаліся ўсяго 4 чалавекі. Цалкам магчыма, што чытачы і балельшчыкі расчараваліся ганебнымі паразамі беларускай зборнай на апошнім чэмпіянаце свету ў Даніі. Упершыню хакейная зборная Беларусі за 15 гадой вылецела з элітнай кагорты чэмпіёнаў. Адпаведна гэта вынікі апытання толькі тых чытачоў, якія вырашылі прыняць удзел у апытанні і яго вынікі не могуць быць рэпрэзентыўнымі для Шуміліна або Шумілінскага раёна.

**Алесь Прыбярэжны**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

БЕЛАРУСЬ–РАСІЯ

# НАВОШТА ПУЦІНУ ЕХАЦЬ У БЕЛАРУСЬ?

**Чаго чакае афіцыйны Мінск ад новага прэзідэнцкага тэрміну Уладзіміра Пуціна? Я згодны з высновамі большасці экспертаў, што ўступленне Уладзіміра Пуціна ў новы прэзідэнцкі тэрмін істотна не паўплывае на стан двухбаковых дачыненняў паміж дзвюма краінамі.**



Пасля шматмесячнага перапынку Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін нарэшце правялі кароткія перамовы на палях саміту ЕАЭС. За гэты час назапасілася шмат спрэчных пытанняў, якія варта было б абмеркаваць.

Але, здаецца, у дадзены момант на першае месца выходзіць фармальнае, сімвалічнае пытанне. У міжнароднай палітыцы існуе традыцыя, што першы замежны візіт новы кіраўнік дзяржавы ці ўраду ажыццяўляе ў тую краіну, якая з'яўляецца для яго найбольш важным партнёрам. Гэта дэманстрацыя замежна-палітычнага прыярытэту. Дарэчы, за гэтым уважліва сочаць эксперты, СМІ, з гэтага робяць важныя высновы…

Відавочна, што цяпер беларускі правадыр вельмі хацеў бы, каб зноў першы візіт Уладзіміра Пуціна пасля яго інаўгурацыі адбыўся менавіта ў Мінск. Выкажу меркаванне, што менавіта гэтае пытанне было галоўным падчас сустрэчы двух лідараў у Сочы.

І такі візіт анансаваны. Аляксандр Лукашэнка 9 мая падчас святочных урачыстасцяў з гонарам расказаў, што чарговае пасяджэнне Вышэйшага дзяржсавету Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі запланавана правесці ў Мінску. Гэта адбудзецца у трэцяй дэкадзе чэрвеня…

Аднак усё гэта фармальны, сімвалічны бок беларуска-расійскіх адносін. Звернемся да змястоўных пытанняў.

Я згодны з высновамі большасці экспертаў, што ўступленне Уладзіміра Пуціна ў новы прэзідэнцкі тэрмін істотна не паўплывае на стан двухбаковых дачыненняў паміж дзвюма краінамі. Саюзніцкія адносіны захаваюцца, хоць, як звычайна, ім будуць спадарожнічаць бясконцыя канфлікты і скандалы. Можна канстатаваць, што сёння Мінск і Масква па-рознаму бачаць парадак дня стасункаў паміж краінамі.

Найперш, Беларусь імкнецца забяспечыць свабодны і прыярытэтны доступ беларускай прадукцыі на расійскі рынак. Гаворка не толькі пра харчовыя тавары (малако і мяса). Мінск дамагаецца, каб захады ўраду Расіі па абароне нацыянальнага вытворцы не пашкодзілі беларускім прадпрыемствам, каб нашы тавары мелі такія ж ільготы на тэрыторыі РФ, як і ўласна расійскія.

Цягам усіх гадоў так званай «беларуска-расійскай інтэграцыі» галоўнай праблемай, вакол якой адбываецца супрацьстаянне паміж Мінскам і Масквой, з'яўляецца пытанне энергарэсурсаў. Беларусь, як звычайна, імкнецца атрымаць расійскі газ і нафту на як мага больш ільготных умовах, Расія квола супраціўляецца. Гэтым разам усе энергетычныя пытанні вырашаныя да 2019 года. Цяпер ідуць перамовы пра цэны і ўмовы паставак энергарэсурсаў у наступныя гады.

І вось тут можа ўзнікнуць адна праблема. Яна моцна звязаная з тым канфліктам паміж Расіяй і Захадам, які хутка нарастае.

Запаветнай мара беларускага кіраўніцтва — з 2025 года перайсці на ўнутраныя расійскія кошты на энерганосьбіты. Уласна кажучы, гэта быў галоўны пернік, з дапамогай якога Масква ўцягнула Мінск у Мытны саюз і ЕАЭС. Справа ў тым, што гэта абяцанне Крамля зыходзіла з тагачасных планаў кіраўніцтва РФ да 2025 года перавесці ўнутраныя расійскія кошты на энерганосьбіты на ўзровень сусветных. Гэта было часткай стратэгіі інтэграцыі Расіі ў сусветную эканоміку. У сувязі з чым Расія брала пэўныя абавязальніцтвы перад уступленнем у Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА).

Але з таго часу сітуацыя радыкальна змянілася. Цяпер, калі супраць Расіі ўводзяць эканамічныя санкцыі, яе спрабуюць выкінуць з працэсаў глабалізацыі, яна апынулася ў ізаляцыі, Масква ў адказ можа абнуліць усе свае абавязальніцтвы перад СГА і адмовіцца ад ранейшых планаў. Бо яны прымаліся ў іншых умовах. У выніку ўсе разлікі беларускага ўраду пагражаюць так і застацца марамі. А гэта можа выліцца ў вялікі скандал у адносінах паміж саюзнікамі.

І прыкметы гэтага канфлікту ўжо праглядаюцца. На саміце ЕАЭС у Сочы Лукашэнка заявіў: «На жаль, зноў не гатовыя для абмеркавання на вышэйшым узроўні праграмы фармавання агульных рынкаў газу, нафты і нафтапрадуктаў. Спадзяемся, што хаця б да канца бягучага года мы паставім подпісы пад гэтымі асноватворнымі дакументамі. І не трэба тут падазраваць Беларусь, што гэта толькі ў інтарэсах Беларусі. Мы дамовіліся, што мы вырашым гэтае пытанне, значыць, яго трэба вырашаць».

Яшчэ адной праблемай беларуска-расійскіх адносін становіцца вайскова-тэхнічнае супрацоўніцтва. Расія адмаўляецца пастаўляць у Беларусь найноўшае ўзбраенне (самалёты, ракетныя комплексы) нават за грошы. Бо, па-першае, не вельмі давярае саюзніку. Па-другое, Масква хоча прымусіць такім чынам Мінск на размяшчэнне сваіх вайсковых базаў на беларускай тэрыторыі.

Акрамя таго, у 2020 годзе заканчваецца тэрмін дзейнасці пагаднення аб знаходжанні ў Беларусі двух расійскіх вайсковых аб'ектаў — радыёлакацыйнай станцыі пад Ганцавічамі і станцыі сувязі ВМФ Расіі пад Вілейкай. Умовы новага пагаднення могуць стаць прадметам вострых дыскусій паміж саюзнікамі.

Ці яшчэ адна тэма для рознагалоссяў: Беларусь не атрымала чарговыя траншы ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця ў памеры 400 мільёнаў долараў. Яны павінны былі паступіць у першым квартале 2018 года. Хутка скончыцца другі квартал, а грошай няма. Фонд лічыць, што беларускі бок не выканаў усе ўмовы крэдытнай праграмы.

Дарэчы, у гэтым годзе Беларусь павінна заплаціць Расіі 1 мільярд 7,5 мільёна долараў доўгу за мінулыя крэдыты. І, як звычайна, Мінск будзе прасіць аб рэфінансаванні запазычанасці. Гэта значыць, прасіць новы крэдыт.

Са свайго боку, Расія хацела б ад Беларусі большай лаяльнасці, большай падтрымкі замежнай палітыкі Масквы. Бо атрымліваецца, што ў сваёй канфрантацыі з Захадам Крэмль апынуўся без саюзнікаў. Гэта для Масквы даволі дыскамфортна. Таму Пуцін будзе ціснуць на Беларусь, патрабаваць стаць у адзін шэраг.

Увогуле, апошнім часам у палітыцы Беларусі назіраецца дзіўны парадокс. Эканамічная залежнасць ад Расіі не змяншаецца, а ў замежнай палітыцы афіцыйны Мінск усё больш дыстанцуецца ад Масквы. Нейкі час можна сядзець у такім шпагаце. Але ці доўга?

**Валеры Карбалевіч**
**"Новы час"**

«ТУНЕЯДЦЫ»

# ДЕЛАТЬ БИЗНЕС И КОПАТЬ ОГОРОДЫ

**17 мая депутаты Палаты представителей рассматривали новый декрет «о тунеядстве». Его поддержали все депутаты за исключением двух представителей оппозиции — Елены Анисим и Анны Канопацкой. В специальных комиссиях уже знают, какие варианты будут предлагать «тунеядцам», чтобы те считались задействованными в экономике.**

Обновленный декрет о содействии занятости населения депутатам представляла министр тура и соцзащиты Ирины Костевич. По новому декрету «тунеядцев» обяжут возмещать полную стоимость газоснабжения, подогрева воды и отопления.

К «тунеядцем» подойдут индивидуально

Сейчас на местах идет процесс обновления состава комиссий, которые будут заниматься координацией работы по содействию занятости населения. Туда будут входить местные чиновники, депутаты, члены ФПБ и других прогосударственных общественных организаций.

Таким комиссиям даже дадут право рекомендовать отправлять в ЛТП тунеядцев, ведущих асоциальный образ жизни.

В течение июня Минтруда планирует разработать памятки для комиссий.

«Мы, конечно, ставили задачу перед комиссиями выслушать каждого человека с точки зрения понимания его ситуации. Включить его в список на полную оплату — это не цель. Прежде всего, это индивидуальный подход, чтобы оказать человеку содействие», — пояснила журналистам Ирина Костевич.

Министр добавила, что тех, кого признают незадействованными в экономике, будут приглашать на заседание комиссий, но идти туда они не обязаны.

Naviny.by узнали, как будут работать комиссии, которым решать, тунеядец вы или нет.

«Тунеядцы» смогут взять на стартап 3 тысячи рублей

Например, в Пружанском районе специальная комиссия уже сформирована. В ее состав вошли 17 человек. Сейчас в районе 99 официально безработных и 381 вакансия.

«Работу у нас можно найти как на предприятиях малого бизнеса, так и на государственных предприятиях. Вакансий у нас больше, чем людей, которые стоят на учете в центре занятости. Мы будем работать по тем документам, которые у нас есть. Если, например, у вас есть приусадебный участок и вы занимаетесь огородничеством, то вы уже не тунеядец», — пояснили в комиссии Пружанского района.

Что предлагает в Пружанском районе потенциальному тунеядцу общереспубликанский банк вакансий? Самая «вкусная» зарплата — на предприятии «Родина», директору предлагают 900 рублей. Остальные вакансии — от 230 до 550 рублей. Чаще всего требуются трактористы.

В Каменецком районе в «тунеядской» комиссии 21 человек. Официальных безработных немного — 28 человек, и 200 вакансий от службы занятости. В уже сформированной комиссии не занятым в экономике дают еще один совет — делать свой бизнес.

«Тем, кто решит заняться бизнесом, предусмотрена даже денежная помощь от государства. А мы поможем спланировать такой бизнес», — рассказали в комиссии.

Размер денежной помощи зависит от места жительства: городской «тунеядец» может получить на свое дело 3 тысячи рублей, сельский — 2 тысячи рублей.

Министерство труда обещает сформировать базу «тунеядцев» до 1 декабря. А уже в 2019 году признанные «тунеядцами» граждане будут обязаны платить за газ, подогрев воды и теплые батареи по стопроцентным тарифам.

**Артем Мартынович**
**https://naviny.by**

КОШТЫ

# ЦЕНЫ ОПЕРЕЖАЮТ ИНФЛЯЦИЮ

**Цены в магазинах растут намного больше, чем инфляция по Белстату: разница в два раза. Почти два года назад в Беларуси произошла деноминация: 1 июля 2016 года миллионы превратились в тысячи. С тех пор белорусы подозревают, что цены в магазинах растут намного больше, чем кажется. Просто из-за копеек это незаметно.**

Два года назад редакция Еврорадио сформировала небольшой продуктовый набор и сделала их фотографии с ценниками. Сегодня мы пошли в те же магазины и рассмотрели ценники на те же продукты.

Больше всего выросла в цене клюквенная настойка «Бульбашъ» — с 8,21 до 12,14 рубля, то есть на 47%. Но если употребить настойку под филе сельди в масле «Vici», это немного компенсирует инфляцию пития, ведь селёдка подешевела на 4%.

Молоко «Малочны гасцінец» по ценникам подорожало на 31%, а цена на сметану «Пан Мысліцкі» выросла на 20-28%, в зависимости от жирности.

Зато намного меньше (сразу на 17%) белорусы платят за растительное масло «Олейна», которое до деноминации стоило 3 рубля 38 копеек, сегодня — 2,82 рубля. Ну, и наш странный набор продуктов за всё это время подорожал на 22%.

Интересно, что у Белстата другая инфляция, угадайте в какую сторону. С июля 2016 по апрель 2018 года цены на продукты питания в Беларуси повысились на 11%. Сметана подорожала на 22,6%, молоко — на 21,2%, стоимость подсолнечного масла снизилась на 3,8%.

В стране Белстата жить лучше. Но экономист Леонид Фридкин спешит защитить Национальный статистический комитет и объясняет, почему реальная инфляция не совпадает с официальной.

«Мы смотрим, например, как резко подорожал шоколад. Но виновата в этом не деноминация и не жадность наших кондитеров. Проблема в том, что в мире существенно подорожали какао-бобы, и это повлияло на конечную продукцию. Поэтому все претензии к тому, что в Гане подорожали какао-бобы.

С другой стороны, вот растительное масло. Если мы посмотрим индексы цен ФАО, то увидим, что на биржах цены на многие продукты питания, в том числе на растительное масло, опускались из-за того, что в мире были высокие урожаи, а баловаться с биотопливом желающих становится всё меньше. То есть отголоски глобальных процессов отражаются на ценниках, которые мы видим на своих прилавках.

Цены на алкоголь сильно зависят от уровня акцизов. Поскольку на многие виды алкоголя цены ещё остаются регулируемыми, то динамика цен не совпадает с общим уровнем инфляции. То же самое происходит со многими другими продуктами».

По словам Фридкина, многие белорусские производители сильно ориентируются на российский рынок, производят гораздо больше, чем могут съесть белорусы. Казалось бы, на нашем рынке цены должны быть ниже, но нет. Высокими ценами для белорусов компании компенсируют экспортные затраты.

«В расчёте инфляции действует очень сложная схема. Если взять какой-то набор 10-15 продуктов и посчитать среднее арифметическое, то это не будет показателем инфляции», — заверяет экономист.

Но глаза не обманешь: когда читаешь, что в 2017 году инфляция удержалась в пределах 5%, а потом подсчитываешь, что молоко подорожало на 31%, чувства охватывают странные.

**https://euroradio.fm**

КАНАНІЗАЦЫЯ

# У ІМЯ АЙЦА І СЫНА І СЬВЯТОГА ЧОРТА

**Гадоў каля дваццаці таму ў Расеі кананізавалі цара Мікалая II, якога датуль называлі «крывавым». Сёньня можна сустрэць праваслаўнага харугваносца з ордэнам Леніна ў несьмяротным палку. Галоўнай фігурай сваёй гісторыі расейскі народ, нібыта, назваў Сталіна, і ўжо ніхто не зьдзіўляецца прапановам аб'явіць сьвятым наступнага «крывавага». Хто далей? Д'ябал? Яшчэ далей толькі марсіяне.**

Міністар унутраных справаў РБ Шуневіч душою ўвесь у гэтых фантасмагарычных працэсах, тым больш фантасмагарычных, што целам ён — у незалежнай краіне Беларусі. Гэта ён вывеў на вуліцы «супрацоўнікаў у цывільным» і тым самым дэ факта легалізаваў дзяржаўны бандытызм. Гэта ён носіць форму сталінскага НКВД. Гэта пры ім колькасьць нічым не матываваных нападаў міліцыі на грамадзян вырасла ў разы (тым самым — рапартуе: зьменшылася колькасьць злачынстваў!). Гэта яго так моцна хвалююць (што б вы падумалі?) вясёлкавыя сьцягі на заходніх пасольствах.

«Мы мяркуем, па-першае, што не рэагаваць на падобнага кшталту падзеі мы ня маем ніякага права. Гэта ўнутраная справа, у тым ліку нашага міністэрства... Я называю гэта прапагандай таго вобразу жыцьця, які нам непрымальны... і вялікіх імунітэтаў, на жаль, апроч нашай гісторыі і рэлігіі, няма».

«Вобраз жыцьця непрымальны» каму? — Шуневічу, міліцыі, народу? Мне, напрыклад, непрымальна, каб чыноўнік, пастаўлены іншым чыноўнікам бяз згоды народа, выказваўся ад імя гэтага народа. Ні на хвіліну не сумняваюся, што гэты аматар НКВД можа займаць пасаду міністра толькі пры Лукашэнку, а не пры Беларусі ці беларускім народзе ці нават пры нейкім іншым Лукашэнку. Чыноўнік, абавязак якога забясьпечваць парадак, ня мусіць рэагаваць на сьцяг на пасольстве Вялікабрытаніі ўжо хоць бы таму, што сьцяг гэты грамадзкага парадку не парушае. Сытуацыю ратуе тое, што ў чыноўніка кароткія рукі. Быў бы сьцяг у руках грамадзяніна РБ — капцы таму грамадзяніну. Замучаюць і пры тым ніколі не прызнаюць за што. Маўляў, «лаяўся матам».

«Наша гісторыя» для Шуневіча — гэта сталінскі НКВД. Але Беларусь не Расея. Тут адносіны да незаконных рэпрэсіяў сталінскіх часоў іншыя, яны ня могуць трактавацца і не трактуюцца людзьмі як «свае», а далей — як нешта пазытыўнае і тое, што «можам паўтарыць». Ні ў адным апытаньні беларусаў Сталін не займаў і ня можа займаць першае месца, колькі б ні стараўся на нашай зямлі рускі тэлевізар.

З «нашай рэлігіяй» яшчэ больш складана. Беларусь, у адрозьненьне ад Расеі, ня монаканфэсійная краіна, дзе царква зраслася зь дзяржавай, то бок адбыўся, як кажуць злапыхацелі, «союз воров с попами». Беларусь шматканфэсійная. Прычым рэальна актыўныя ў веры пратэстанты і каталікі пераважаюць праваслаўных, якія зазвычай выконваюць нейкія каляндарныя дзеяньні, таму што так робяць усе або таму, што так паказвае рускі тэлевізар.

Што гэта значыць? Што кананізацыя чорта, калі да гэтага дойдзе ў Маскве, ніколі ня будзе прынятая людзьмі ў Беларусі. І пасяліць гэтага чорта ў душах людзей будзе ня менш складана, чым Шуневічу дацягнуцца да вясёлкавага сьцягу на брытанскім пасольстве.

**Сяргей Дубавец**
**"Радыё Свабода"**

"ПАКАРАННЕ"

# ЛУКАШЕНКО «НАКЛОНИЛ» ГЛАВ ОБЛАСТЕЙ

**Председателям Витебского и Могилевского облисполкомов объявлены замечания за несвоевременную выплату зарплат на предприятиях региона.**

Александр Лукашенко недоволен работой председателей Витебского и Могилевского облисполкомов Николая Шерстнева и Владимира Доманевского. Обоим объявлено замечание за то, что они не выполнили поручение о своевременной выплате заработной платы.

Подробности не сообщаются. Чем же могли провиниться чиновники?

По статистике, именно в этих двух регионах больше всего организаций, которые задолжали своим работникам по зарплате. По данным на 1 мая 2018 года, в Витебской области их насчитывалось 80, а в Могилевской области — 56. Для сравнения: в Минске — 17, Минской области — 12, Гродненской области — 5, а в Гомельской и Брестской областях — ни одного.

По размеру просроченной задолженности первое место также занимает Витебская область. На начало мая организации этого региона задолжали работникам 3,829 млн рублей.

А вот Могилевская область занимает третье место с просроченной задолженностью в 2,504 млн. Опережает ее Минск с суммой в 3,501 млн рублей. Четвертое и пятое место занимают Минская и Гродненская области. Там просроченная задолженность составила 1,888 млн рублей и 157 тысяч рублей, соответственно.

В Комитете по труду, занятости и социальной защите Могилевского облисполкома Naviny.by рассказали, что из общего числа задолжавших организаций две являются строительными и находятся в процедуре ликвидации, а остальные — сельскохозяйственные.

«У нас в предыдущие месяцы такой сложной ситуации не было. Она вызвана тем, что возникла неотложная необходимость направления части денежных средств на весенне-полевые работы. Это залог будущего урожая, будущих финансовых поступлений», — объяснили в комитете.

Сейчас ситуация нормализуется, отметили в Могилевском облисполкоме. Из 56 организаций в списке должников осталось 17: «Сегодня или максимум в понедельник заработная плата в этих организациях будет закрыта».

В Витебской области большинство должников — также сельхозпредприятия. Две промышленные организации и одна из сферы ЖКХ находятся в стадии ликвидации.

«У нас практические все организации, которые имеют задолженность по заработной плате, — именно сельские. А село у нас традиционно — зона рискованного земледелия. Наши организации всегда находились в более худшем финансовом положении [по сравнению с другими областями]», — объяснили Naviny.by в Комитете по труду занятости и социальной защите Витебского облисполкома.

В ведомстве надеются, что ситуацию помогут исправить президентские указы, направленные на улучшение финансового положения сельхозорганизаций.

«Это не какие-то вливания, чтобы предприятие заплатило заработную плату с этих денег. Там идут рассрочки и отсрочки по задолженности, гарантии под кредиты, реорганизация предприятий. Там идет огромная работа, чтобы предприятие окрепло. А если предприятие будет крепко стоять на ногах, оно не будет не выплачивать деньги», — отметили в Витебском облисполкоме.

На проблемы с выплатой заработных плат, в том числе и в Витебской области, ранее обращали внимание в Генеральной прокуратуре и Федерации профсоюзов Беларуси.

«Одно из основных прав наших граждан — право на своевременность выплаты заработной платы. Этот вопрос стоит на особом контроле у органов прокуратуры. Только за прошлый год нами было привлечено к административной, дисциплинарной и материальной ответственности более 1,5 тысячи должностных лиц. От решения этой проблемы зависит как повышение эффективности производства, так и рост благосостояния людей, благоприятный социально-психологический климат в обществе», — говорил на круглом столе в марте этого года начальник управления Генпрокуратуры по надзору за исполнением законодательства и законностью правовых актов Андрей Мальцев.

**Алексаендр Ярошевич**
**"БЕЛАПАН"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.05.2018 у 17.55**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.